Przesyłka opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 25 гр.

№ 2 Вільня, 14 Жніўня 1931 г. Год I

# ГОЛАС ПРАЎДЫ

ПАЛІТЫЧНАЯ, ГРАМАДЗКАЯ І ЛІТЭРАТУРНАЯ ЧАСОПІСЬ. Выходзіць 2 разы ў месяц.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ і АДМІНІСТРАЦЫІ: ВІЛЬНЯ, Бэліны 40—4. (Wilno, ul. Beliny 40 m. 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 1 г. дня.

„ГОЛАС ПРАЎДЫ“ каштуе на год—6 зл. на паўгода 3 зл. на 3 мес.—1 зл. 50 гр., на 1 месяц—50 гр.

## КРАКАДЫЛЕВЫЯ СЬЛЁЗЫ

Пэўныя чыннікі, якія „падшыўшыся“ пад нацыянальна-адраджэнскі рух,—усю сваю энэргію трацілі на тое, каб разбурыць гэты рух і справакаваць яго, скіроўваючы на „рэвалюцыйны“ шлях.

У гэтым як раз кірунку праца вялася цэлымі гадамі з вялікім накладам энэргіі.

Усюды, дзе толькі паўставалі культурныя беларускія пляцоўкі—залазілі разбураючыя сілы—і вялі сваю працу да тае пары—пакуль не хавалі тае арганізацыі, у якую пралазілі.

Ніхто іншы, як гэтыя сілы стараліся разбурваць беларускія гімназіі, дзе закладаліся „ячэйкі“ і рабіліся розныя авантуры з выключнаю мэтаю ліквідацыі гэных расаднікаў беларускае культуры.

З вонкавага боку выглядала так, быццам ад скамунізаваньня малодшых клясаў нашых гімназіяў залежаў лёс сусьветнай рэвалюцыі...

І што найгорш у гэтым усім, дык гэта тое, што такая правакатарская праца прыкрывалася „абаронцамі“ беларускай справы, пасламі, якія лічылі сябе прадстаўнікамі беларускага народу.

Больш ганебнай старонкі ў гісторыі беларускага народу здаецца яшчэ ня было.

З тою-ж самаю мэтай камуністы імкнуліся захапіць Т-ва Бел. Школы, іх не бракавала ў „Змаганьні“, ў коопэратывах і г. д.—і ў выніку іхняе працы мы бачым, што ўсе тыя арганізацыі, куды толькі яны ўлазілі — зачыняліся; людзей пасадзілі ў вастрогі, а нашая нацыянальная і культурная справа ад ўсяго гэтага толькі цярпела. Дайшло нават да таго, што дзякуючы камуністам значная частка нашага сялянства пачала баяцца ўсяго беларускага, бо заўсёды нейк так траплялася, што за тым, што насіла адзнаку беларускага, таілася нешта альбо „антыпанствовае“ альбо наагул нейкая брудная афёра.

Такімі аказаліся вынікі ад папярэдняе працы камуністаў і розных „камунізуючых“ элемэнтаў на ніве нашага нацыянальнага адраджэньня.

І вось цяпер, калі шырокія сялянскія масы пачынаюць адварачвацца ад сваіх камуністычных апякуноў, калі яны патроху ўсьведамляюць сабе да якіх уласьціва мэтаў шыкуюцца ўсе падземныя сілы — сярод гэтых апошніх запанавалі сумныя настроі. Ім бачыцца, што нашае грамадзкае жыцьцё „зайшло ў тупік“, што ў нашым грамадзкім жыцьці не наглядаецца „ніякага здаровага сацыяльна-нацыяналь. руху“. Ім здаецца, што ў нашым народзе, пасьля таго, як пачынае падаць гэгэмонія камунізуючых уплываў, можа панаваць толькі, як яны кажуць, „сьмердзякоўшчына і карамазаўшчына“.

І з гэтае прычыны праліваюць кракадылевыя сьлёзы, „абаронцы працоўных“, прывыкшыя каб за імі ішлі гэтыя працоўныя, як стада авечак, ня маючых свайго ўласнага розуму.

Яны вельмі зацікавіліся тымі спрэчкамі і барацьбою, якая вядзецца ў нетрах нашага грамадзянства і сутнасьць іх хацелі-б зьвесьці да вельмі прымітыўных груба матэрыяльных рэчаў.

Як вагня яны баяцца ўсялякай крысталізацыі грамадзкай і палітычнай думкі, якая ім вельмі нявыгадна.

Яны добра ведаюць, што такая крысталізацыя ў пэўныя мамэнты патрэбна ў кожным грамадзянстве, бо толькі тады можна выразна разглядзець хто „свой“, а хто „чужы“. Ім залежыць на тым, каб нашае грамадзянства знаходзілася ў такім нявыразным, мутным стане, пры якім так лёгка „лавіць рыбу“.

Але такому стану рэчаў надыходзіць канец: пытаньня пачынаюць станавіцца ясна і выразна...

Гэтая як раз акалічнасьць вельмі не падабаецца ўсім „анонімным“ сілам, якія-б і далей хацелі муціць ваду, выдаючы сваю аднаднёўку „На Пераломе“ і заклікаючы наіўных людзей, каб падтрымоўвалі іх „прэсу“...

Арганізацыя жывых і здаровых элемэнтаў, аб каторай так клапоцяцца падземныя сілы—пойдзе сваею дарогаю, незалежна ад уплываў тых, хто праз увесь час уносіў у наш народ адно толькі разлажэньне і маральную атруту.

---

### Увазе ўсіх беларусаў-уцекачоў з Савецкай Беларусі

Рэдакцыя просіць усіх уцекачоў з Сав Белар. якія хацелі-б стала атрымоўваць газэту,—прыслаць свае адрасы ў рэдакцыю, якая будзе высылаць яе са значнаю зьніжкаю.

---

## БЕЛАРУСКІЯ ГІМНАЗІІ

Было іх чатыры і застаецца дзьве. Зачынілі ў Радашкавічах і маюць зачыніць у Клецку.

Гэты факт зьяўляецца вельмі сумным мамэнтам у нашым грамадзкім жыцьці.

Ёсьць падставы думаць, што замест шуканьня рэчовых выхадаў са ствырыўшагася палажэньня, ў нашым грамадзянстве пачне пашырацца звычайная дэмагогія (і ўжо пачалася), каторую пастараюцца выкарыстаць падземныя сілы каб унесьці яшчэ большае забурэньне.

Беларускіх гімназіяў будуць „бараніць“ нават тыя, хто наагул сучасныя школы лічыць за буржуазны „предрассудак“.

Словам, — пачнецца старая песьня, добра вядомая нам з ранейшых напеваў...

Каб запраўды здаць сабе справу з таго палажэньня, у якім апынулася беларускае сярэдняе школьніцтва, трэба перадусім нам самым аб'ектыўна уявіць галоўныя хвароры, якія яго разьядалі. Мала сказаць таго, што гаворыць напр. „Белар. Звон“, зваліваючы ўсю віну на ўрад і пагражаючы гэтаму апошняму.

Трэба ўявіць сабе, што зрабіла і само беларускае грамадзянства ў постаці яго кіруючых колаў для таго, каб *замацаваць нашую сярэднюю школу* а перадусім узгадаваць у ёй такіх грамадзян, якія-б запраўды прыносілі для нашай справы некую карысьць а не ўцякалі ў Саветы, альбо „адпачывалі“ на Лукішках, як гэта даволі часта здараецца з выхаванкамі нашых гімназіяў.

Вось-жа як раз на гэтае пытаньне трэба зьвярнуць увагу і шчыра прызнацца ў тым, што галоўным чынам губіла і губіць нашу сярэднюю школу.

Добра памятаем тыя часы, калі з нашых гімназіяў тварыліся „цытадэлі міравой рэвалюцыі“.

Над гэтым працавала з вялікім накладам энэргіі значная частка нашых „дзеячоў“ меўшых „грамадзкую гэгэмонію“. Моладзь сыстэматычна дэмаралізавалася, у яе серадовішча ў розных постацях прышчапляўся бальшавізм палітычны і маральны, вучнёўская моладзь кіравалася на вулічныя дэманстрацыі, пасылалася на публічныя сходы з плікамі камуніст. пракламацыяў, уцягвалася на „рэвалюцыйныя“ выступленьні, у выніку чаго вастрогі запаўняліся беларускімі гімназістамі. Ніхто іншы, як б. пасол Дварчанін, а разам з ім уся яго „парлямэнтарная“ фракцыя займалася (пры актыўным падтрыманьні „непарлямэнтарных“ нашых колаў) разбурэньнем беларускіх школаў.

Каб ня быць галаслоўным варта прывесьці прыклады з аднаго „камунікату“, які выдаў пасольскі клюб Змаганцаў з прычыны забурэньняў у Клецкай гімназіі ў 1929 годзе і з якога можна даведацца шмат цікавага пра вынікі „працы“ нашых б. парлямэнтарыяў на ніве народнай асьветы.

„...Выкідваньне паадзіночных вучняў найбольш актыўных“, чытаем у ім: „якія не маглі ня выразіць сваіх думак, што да спатканьня Прэзыдэнта, не маглі не пратэставаць проці збору на ЛОПП., проці прымушэньня сьвяткаваньня фашыстаўскіх сьвятаў, проці прымусовага цалаваньня крыжа.. на масавы пратэст *большай часткі вучняў* гімназіі 18 лістапада пэд. рада ўводзіць „у гімназію паліцыю, дзе вучні *забарыкадаваліся*“.

Дварчанін і яго змаганская кумпанія прыводзяць у тым-жа камунікаце ліст аднаго з вучняў Клецкай гімназіі наступнага зьместу, з якога відаць што найбольш падабалася нашым „змагарам“ за лепшую будучыню.

„Прыйшоўшая паліцыя дамагалася раскіданьня барыкадаў. Вучні адмовіліся. У адказ на гэта зьявілася больш паліцыі... Вучні не здаваліся. Тады камэндант загадаў паліцыі раскідаць барыкады. З рэвальвэрамі ў руках кінуліся паліцыянты выконваць загад.

„Аддаць бронь!“—„Забірайце“—сьмехам адказалі вучні“.

Пасьля гэтага ідзе апісаньне звычайных у такім выпадку рэчаў: арышт старэйшых вучняў, пастарунак, звальненьне з гімназіі і г. д.

Сумныя рэчы тварыліся ў мурох Клецкай беларускай гімназіі, так узгадоўваліся нашыя дзеці якіх—пэўне-ж ніхто з нас не пасылаў на гэтакую „навуку“, якую яны там набылі...

І вось паўстае пытаньне: хто зьяўляецца галоўным вінавайцаў ў запраўдным разбурэньні нашых школаў, якое рэдка дзе спатыкаецца?

Ня трудна іх знайсьці—і кожны іх добра ведае, але чамусьці ўсе маўчаць. Віна нашага грамадзянства палягае на тым, што яно дапусьціла да такого стану рэчаў і што своячасна ў корні ня вырвала тае заразы, якая сыстэматычна нішчыла нашыя школы. На жаль і пэдагогічны

пэрсанал не заўсёды быў на пэўнай вышыні. Здараліся выпадкі калі самі вучыцялі былі „праваднікамі заразы", труючы нашую моладзь нават з вучыцельскай кафедры. У лепшым выпадку яны выяўлялі нейкі „нэйтралітэт", „непротивление злу" або сядзеньне на двох крэслах адразу. Гэтым апошнім былі між іншым вельмі нездаволены нашыя кіруючыя „парлямэнтарныя сфэры", дамагаючыся большай актыўнасьці".

У тым-жа самым камунікаце Пас. Клюбу „Змаганьне" знаходзім „суровую" нагану дырэктару Клецкай гімназіі Якубёнку і ўсей Пэдагогічнай Радзе з тае прычыны, што яны пасьмелі *без дазволу Дварчаніна і К-о* ўступіць у сябры „фашыстаўскага" вучыцельскага саюзу. „На запытаньне Пасольскага клюбу" — знаходзім у Камунікаце: —„аб прычынах такога зьявішча — прадстаўнікі Пэд. Рады Клецкай гімназіі заявілі, што гэта зроблена бяз згоды Пэд. Рады, дэкляравалі *ўва ўсіх далейшых сваіх паступках падпарадкавацца сялянска-работніц. дысцыпліне,* але выйсьці з Саюзу адмовіліся, тлумачачы гэта небясьпекай зачыненьня гімназіі".

„Камунікат", які столькі ўвагі ўдзяліў справам беларускай гімназіі, заканчываецца знаёмымі нам лёзунгамі:

„Прэч з беларускім соцыял-фашызмам!

„Прэч з імпэрыялістычнай вайной проці С. С. С. Р.!

„Няхай жыве сялянска-работніцкі ўрад".

Вось хто фактычна распараджаўся лёсамі беларускай асьветы і німа нічога дзіўнага, што такое кіраўніцтва столькі няшчасьця прынесла нашай моладзі і ўсей нашай справе.

Ня лепшае палажэньне наглядалася і ў Віленскай гімназіі дзе таксама ўводзілася паліцыя, дзе сыстэмачна гняздзіліся „ячэйкі", дзе вучні высылаліся раскідаць камуністычную бібулу і г. д. Ня трудна адказаць—якое ўражаньне аставалася ад нашых гімназіяў у польскага грамадзянства і школьных уладаў. Бязумоўна яны лічылі іх рассаднікамі камунізму і мелі на гэта пэўныя падставы. Цяпер палажэньне ў нашых школах зьмянілася на лепшае, але трэба памятаць, што моладзь там усьпела пакалечыць сваю душу, яшчэ засталіся тыя вучні і вучыцялі, якія былі сведкамі сумных часоў, перажываных школаю, яшчэ засталася зараза, якая час ад часу выяўляе сябе ў постаці „ячэяк"... На жаль для ўсяго нашага грамадзянства, яно аказалася ня здольным да гэтага часу вытварыць тып запраўднай беларускай школы, якая-б давала ўзгадаваньне ў запраўдным нацыянальна-культурным кірунку.

Адчуваецца яшчэ „старая закваска", каторую абавязкова трэба вывесьці як мага хутчэй, бо гэтая „закваска" можа прынесьці шмат ліхога і ў будучыні... Так стаяць справы ў нашых гімназіях з боку выхаваўчага.

Ня лепш яны выглядаюць і з боку навучальнага.

Перадусім у нашыя гімназіі напхалася шмат элемэнтаў, ніколі нічога супольнага з беларускаю справаю ня меўшых.

Вельмі часта ў беларускіх гімназіях можна спаткаць тыповых расейцаў, якія нідзе не „улекаваўшыся" залічылі сябе да „белурусаў" і пачалі ўзгадаваньне нашай моладзі у „нацыянальным" кірунку.

Даволі многа там людзей ня маючых адпаведнай адукацыі, вымаганай ад вучыцялёў сярэдніх школ. Нават у Віленскай гімназіі, якая павінна быць прыкладнаю, большасьць вучыцялёў ня мае закончанай вышэйшай адукацыі, не гаворучы ўжо пра якія небудзь вучыцельскія „кваліфікацыі".

Вучыцельскія пасады займаліся, у большасьці выпадкаў, людзьмі адпаведна сьпеўшыміся. Некаторыя вучыцялі так далёка заангажаваліся ў „палітыку", што больш займаліся газэтнаю лаянкаю, чым навуковымі справамі.

Усё гэта вельмі дрэнна адбівалася на навучаньні моладзі, доказаў таму бадай ці патрэбна прыводзіць.

Шмат чаго можна было-б сказаць яшчэ на гэтую тэму, але, нам здаецца, даволі будзе і таго што сказана.

І вось цяпер мы стаім перад пытаньнем: што рабіць далей і як направіць справу?

Бязумоўна ня можна пагадзіцца з тым, каб нашыя школы памерлі самі ці то былі пахаваны некім іншым.

Нашае грамадзянства мусіць бараніць свае школы з усіх бакоў і самым энэргічным спосабам.

Перадусім Бацькаўскія Камітэты павінны ачысьціць пэдагагічны персанал і падабраць адпаведных вучыцялёў, якія-б былі ў сілах унесьці аздараўленьне сярод нашай моладзі і якія-б былі на вышыні свайго палажэньня, як запраўдныя вучыцялі.

Грамадзянства мусіць дамагацца каб ўрад узяў пад матэрыяльную апеку нашыя гімназіі, а найлепшаю апекаю было-б іх „упанствовене". Калі нашыя гімназіі сталі-б дзяржаўнымі, мы атрымалі-б моцны матэрыяльны грунт. Ад гэтага паднялася-б іх павага сярод масаў нашага народу і беларуская вучнёўская моладзь была-б зраўнана ў правах з польскаю.

Акрамя таго яны былі-б больш даступнымі для нашага народу, бо тая плата, якая ўзымаецца цяпер за навуку і якая будзе падвышацца — не кожнаму пад сілу.

Ёсьць падставы думаць, што пры цяперашнім гэтане рэчаў гімназіі могуць апынуцца без адпаведнай колькасьці вучняў, асабліва бяручы пад увагу цяжкі эканамічны крызіс.

У ўрадовых гімназіях немагчымы былі-б такія парадкі, якія наглядаліся ня толькі ў нашых, але наагул у прыватных школах.

Баяцца тае акалічнасьці, якою страшаць некаторыя, што пры „упаньствовені" беларускія гімназіі быццам страцяць свой нацыянальны характар ня прыходзіцца, бо трэба не забываць, што ў школьным жыцьці вялікі голас мае Бацькаўскі Камітэт, і школьныя ўлады мусяць з ім лічыцца.

Проці „упаньствовення" бел. гімназіяў выказваецца пераважна частка вучыцялёў ня маючая адпаведнай адукацыі, ці то вучыцельскіх кваліфікацыяў, але абарона іх прыватных інтэрэсаў не ўваходзіць у абавязак нашага грамадзянства. Пры „упаньствовені" гімназіяў адпалі-бы ўсе дэмагагічныя довады матэрыяльнага зместу: „не даюць грошай, хутка зьліквідуюць зусім" і г.д.

Як відаць з усяго — Клецкая гімназія будзе пахавана ў такі самы спосаб як і Радашкавіцкая.

З пункту гледжаньня колькаснага—гэта страта, але такая, якую можна направіць, атрымаўшы якасныя плюсы.

Трэба толькі каб урад памог адчыніць адну, але добра пастаўленую праф.-тэхнічную школу.

Запраўды гэты тып школы куды больш патрэбны, асабліва ў сучасны век спэцыялізацыі Зашмат мы маем людзей з агульнаю асьветаю, здольных толькі да канцэлярскай працы. Зашмат маем розных недаучак, якія выбывыстоўваюць у сваіх мэтах падземныя сілы і якія здольны толькі да ўсялякага разбурэньня, і вельмі мала маем тэхнікаў, коопэратараў, агарадніказў. Між іншым, як нам вядома, пасьля ліквідацыі Радашковіцкай гімназіі сам урад рабіў прапазыцыю пэўным беларускім дзеячам, каб адчыніць праф. тэхн. школу і абяцаў дапамогу.

Але здарылася неяк так, што гэтую прапазыцыю дзеячы нашы затрымалі ў сакрэце і не давалі яе да ведама грамадзянства. Вось-жа цяпер у звязку з магчымаю ліквідацыяй Клецкае гімназіі трэба ўзварушыць гэтае пытаньне перад урадовымі сфэрамі.

На жаль, віленская беларуская прэса гэтым важным пытаньнем зусім ня прысьвячае ўвагі, а старым звычаем бавіцца ў дэмагогію.

Яшчэ меньш увагі яна зьвяртае на тыя аснаўныя прычыны, якія давялі фактычна да руіны нашае сярэдняе школьніцтва

Трэба мець цывільную адвагу прызнацца да таго, што было і мець рашучасьць вымесьці ўсё ліхое—толькі тады мы зможам стварыць беларускую школу, пабудаваную на здаровых падставах

---

# САВЕЦКАЯ ПЯЦІГОДКА і СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА*)

У Саветах самаю „моднаю" рэчаю зьяўляецца цяпер трактар.

Пяцігадовым плянам намечаецца кінуць на вёску 180 тыс. машынаў.

Калі нават і дапусьціць, што Саветы „выскрабуць" такую колькасьць трактараў, то і тады гэта будзе толькі капля ў моры, бо каб правесьці мэханічную апрацоўку зямлі па ўсяму Савецкаму Саюзу гэтых самых трактараў патрэбна ў 10—15 разоў балей.

У гэты-ж самы час колькасьць звычайных сялянскіх „конікаў", зьяўляючыхся незаменімаю сілаю ў вясковай гаспадарцы—па прызнанию самы савецкія аўтараў – не асягнула яшчэ прадваенае нормы.

„Асабліва вялікая патрэба ў іх наглядаецца ў раёнах зернавой гаспадаркі (Паволжа, Паўночны Каўказ). Па акрасьленьню нашых спэцыялістаў, працоўная жывёла ў бліжэйшае пяцігодзьдзе можа ўзрасьці на 10—20%" — (Мінінзон стар. 17).

І ўсё-ж такі, дабавім ад сябе — не асягнуць прадваеннай нормы.

Ёсьць падставы спадзявацца, што жывёла ў Саветах будзе выміраць, дзякуючы адсутнасьці кормоў, якая выклікаецца сучасным гаспадараваньнем.

Наскольки савецкае сялянства слаба забясьпечана сел-гасп. машынамі і прыладамі можна перакаанацца з наступных дадзеных.

У той час, калі ў буржуазнай Амэрыцы на 1 гэктар пасеўнае плошчы прыходзіцца машынаў і прыладаў на 80 руб., у Саветах усяго толькі на 9 р. 60 кап.

Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што ўсе сялянскія машыны і прылады надзвычайна прымітыўнае якасьці і зроблены, галоўным чынам, саматугам.

Аб тым, каб дагнаць Амэрыку у гэтых адносінах Саветам трэба прылажыць яшчэ шмат высілкаў, а каб „апярэдзіць", дык, панашаму разуменьню, трэба адлажыць аб гэтым „клопат" на вельмі доўгі час.

Пад канец пяцігодкі яе аўтары спадзяюцца пакінуць „далёка ззаду" перадваенны ровень. Колькасьць збожжа ў краі, па іх прароцтвам, павялічыцца з 74 мільёнаў тонаў да 106 мільёнаў тонаў. Колькасьць таваровага хлеба, які ідзе на патрэбы гарадоў, арміі, прамысловасьці і на экспорт, узрасьце з 8—10 мільёнаў тонаў да 20 мільёнаў тонаў, гэта значыцца ў $2^1/_2$ разы.

У цяперашнія часы блізу ўсю, патрэбную для прамысловасьці тонкую шэрсьць Саветы прывозяць з-заграніцы. Штогоду трацяцца там вялікія сродкі на прывоз з заграніцы бавоўны і неабробленае скуры. Лён—валакно вывозіўся да вайны заграніцу ў значнай вялікай колькасьці; на заграмічных рынках Расея была яго вялікім дастаўнікам

Цяпер гэтага самага лёну не хапае нават для патрэбаў унутранае прамысловасьці.

Усе гэтыя дзіркі савецкі плян зьбіраецца залатаць у першую-ж пяцігодку: бавоўны савецкія хвабрыкі атрымаюць з сваіх айчыстых палёў больш 6 мільёнаў цэтн., прадукцыя лёну—валакна павялічыцца ў $2^1/_2$ разы і г. д.

Немагчыма проста пералічыць усяго таго, што чакаюць савецкія дзеячы ад сваё пяцігодкі, у якую яны вераць таксама сьлепа, як жыды ў сваіх сіонскіх мудрацоў.

Астаецца нам адзначыць яшчэ адну вельмі характэрную драбніцу. Як відаць, аўтарам пяцігодкі проста хацелася пажартаваць над працоўным сялянствам і яны ў сваім „шляхэтным імкненьні" азначылі нават на колькі % палепшыцца яго пажыўны рэжым за плянуемы пэрыяд.

„Спажыўленьне сялянства ўзрасьце на душу: па хлебу на 6 %, па мясу на 17%, па яйкам на 45 % і па малочным прадуктам на 25 %". „Будзе расьці", гаворыць той жа Мінінзон, „ня толькі колькасьць ежы, спажываемай сельскім насельніцтвам, але палепшыцца і яе склад. Роля найбольш цэнных складных частак у ежы (малочных прадуктаў, мяса, яек), будзе расьці". (Мінінзон стар. 61.

Дай Бог, каб было так.

Толькі сучасная савецкая рэчаістасьць змушае нас непакоіцца, каб не паўтарылася тое, што ўжо перажывала Расея ў 1921 годзе, калі дрэўныя карані, звычайная малотая кара былі чуць не галоўнымі харчамі сялянства. У тых-жа мясцовасьцях, як напр. Паволжа, на жывых людзей палявалі „добрыя людзі", як на зайцаў, ня гідзіліся і нябошчыкамі, калі яны не пасьпелі, вядома, моцна падгніць.

Папросту кажучы, у выніку савецкага нядбальства, замест чакаемага прыросту і павялічэньняў, могуць атрымацца, і ўжо атрымаліся, зусім адва-

*) Гл. № 1 „Беларуская Праўда".

### Вялікая чугуначная катастрофа каля Беластоку

7 жніўня здарылася чугуначная катастрофа каля Беластоку з тае прычыны, што адзін цягнік наскочыў на другі. Не абыйшлося бяз людзкіх ахвяраў: 4 асобы аказалася забітымі і 18 раненых.

За несумленнае выкананьне службовых абавязкаў улады арыштавалі некалькіх чугуншчыкаў.

### Даўгі Эўрапейскіх дзяржаў Амэрыцы

Амэрыка зьяўляецца галоўным крэдытарам Эўрапейскіх дзяржаваў.

У Амэрыканскім бюджэце на 1930—31 г. г. які раўняецца 120 мільярдаў франкаў — 6 міліярдаў прыпадае на плацяжы Эўропы (працэнты па даўгох і частковыя пагашэньні).

У гэтым годзе Гувэр згадзіўся, як ведама, выкрэсьліць гэтыя 6 міліярдаў з тым аднак, што і эўрапейскія дзяржавы аблегчаць адна другой грашавыя плацяжы. Агулам бяручы Эўрапейскія дзяржавы вінаваты Злуч. Штатам 22 мільярда дал.

З гэтай сумы Англія вінавата 11 мільярдаў 105 міліёнаў даляраў, Францыя—7 міліярдаў дал., Італія $2^{1}/_{2}$ міл.—дал. і г. д.

На рахунак гэтага даўгу Эўропа заплаціла да гэтага часу ўсяго толькі $1^{1}/_{2}$ міліярда дал., з якіх толькі $^{1}/_{2}$ міліярда пашло на пагашэньне даўгу, а 1 міліярд выплачаны як працэнты за даўгі.

Як відаць, то доўга яшчэ прыдзецца Эўропе выплачываць свае даўгі.

### Тэлескоп - гігант

Марское ведамства Амэрыканскіх Злуч. Шт. афіцыяльна паведамляе, што хутка будзе закончана будова фото-тэлескопа, пры помачы якога можна будзе фотаграфаваць зоркі, знаходзячыяся ад зямлі на вялізарных адлеглсасьцях (да $1^{1}/_{2}$ міліярдаў сьветавых гадоў ад зямлі).

Тэлескоп гэты будуецца па плянам і пад кіраўніцтвам праф. Рышчэя. Пры дапамозе гэтага тэлескопу можна будзе зусім дакладна дасьледзіць паверхню Месяца, Марса і іншых сьвяціл.

Першыя зьнімкі будуць зроблены вясною наступнага году.

### Выезд у Канаду

Цэнтральнае эміграцыйнае бюро паведамляе, што выезд у Канаду дазволены цяпер толькі тым асобам, якія маюць адпаведныя матэрыяльныя сродкі, ці маюць у Канадзе сваякоў, матэрыяльна забясьпечаных.

### Курс Савецкага чырвонца

Савецкі чырвонец (10 руб.), які некаліс каштаваў каля 50 злотых—цяпер на Варшаўскай біржы расцэньваецца ўсяго толькі ў 2 зал. 75 гр. Курс яго няўпынна падае, бо яшчэ 25 ліпня ён расцэньваўся ў 3 зл. 3 гр.

## Розныя весткі з краю

### МЭМОРЫЯЛ ВІЛЕНСКАЙ ГАНДЛЁВА-ПРАМЫСЛОВАЙ ПАЛАТЫ

Віленская Гандл.-Прамысловая Палата выпрацавала мэморыял, у якім праведзены дадзеныя пра стан гандлю і прамыслу ў Віленскім ваяводзтве.

У ім гаворыцца пра значнае скарочаньне ліку гандлёвых абаротаў.

Амаль зусім спыніўся лясны і льняны вываз.

Галоўную прычыну ў скарочаньні гандлёвых абаротаў мэморыял бачыць у Савецкім дэмпінгу, пры якім Саветы пхаюць за бязцань свае тавары з мэтаю падарваць гандаль і промысл на ўсім сьвеце у той самы час, як савецкае грамадзянства ня можа дакупіцца самых патрэбных рэчаў.

Як ведама, Саветы пры дапамозе г. зв. дэмпінгу імкнуцца выклікаць незадаваленьне працоўных масаў, якія пазбываюцца працы дзякуючы Савецкім махінацыям.

### КРЫВАВАЯ БАРАЦЬБА СЯЛЯН З САВЕЦКІМІ ПАГРАНІЧНІКАМІ І БЕГСТВА Ў ПОЛЬШЧУ

29 ліпня г.г. на савецка-польскай граніцы ў раёне Заслава мела мейсца крывавая барацьба савецкіх сялян з чырвонаармейцамі.

Група сялян каля 50 чалавек прыйшла у лес каб насячы сабе дроў.

Як толькі савецкія пагранічнікі, даведаліся, што сяляне прыступілі да працы—пачалі ў іх страляць.

Сяляне мелі пры сабе зброю і пачалі адстрэльваца, у выніку чаго зазязалася даўжэйшая страляніна. На падмогу савецкім пагранічнікам хутка прыбыў вялікшы вайсковы аддзел, які акружыў сялян каб гэтым ня даць ім магчымасьці ўцячы ў Польшчу. Ня гледзячы на гэта ўсё-ж такі чатыром сялянам удалося ўцячы на наш бок.

Падчас гэтай крывавай сутычкі і аблавы аказалася забітымі некалькі сялян і 4 савецкіх пагранічнікаў.

Не праходзіць таго дня, каб на савецка-польскім пагранічу не адбываліся крывавыя бойкі і бегства савецкіх сялян у Польшчу.

### СЬЛЕДСТВА Ў СПРАВЕ ПАКУШЭНЬНЯЎ НА ЧУГУНАЧНЫЯ ШЛЯХІ

Улады вядуць энэргічнае сьледства ў справе апошніх пакушэньняў каля Яшун і Новай-Вялейкі.

У зьвязку з гэтым улады зьвярнуліся да майсцовага жыхарства з заклікам памагчы вышукаць вінавайцаў.

Асобам, якія дадуць патрэбныя інфармацыі будуць выдадзены нагароды.

### СТРАШЭННАЯ БУРА НА ПАЛЕСЬСІ

30 ліпня над Столінскім паветам пранеслася страшэнная бура, прычыніўшая шмат шкодаў. Напр. у Вышэцкай гміне зьнішчаны ўсе пасевы, пазрываны стрэхі і г.д. У Давідгарадку, Беразове, Рудні і інш. пунктах зьнішчаны ўсе фруктовыя дрэвы і павырываны з карэньнямі сталетнія дубы. Град выпаў вялічынёю з курынае яйцо.

У Відіборы пярун пабіў некалькі галоў быдла

### АРЫШТЫ І ВОБЫСКІ

Камуністам залежыць на тым каб як мага больш пасадзіць у вастрогі людзей.

Парад днём 1 жніўня камуністычныя агенты параскідалі праклямацыі, дзякуючы чаму ў некаторых паветах адбыліся вобыскі і арышты. Цяпер нявінныя людзі, якіх патрывожылі, дзякуючы камуністычнай правакацыі, праклінаюць сваіх „апякуноў і дабрадзеяў", здольных толькі зарабляць даляры на людзкім няшчасьці.

## Беларуская хроніка

### Сьмерць кс. М. Пятроўскага

25 ліпня г. г. памёр ведамы беларускі дзеяч пробарш у Віннай Бельскага павету Кс. Міхал Пятроўскі, меўшы ўсяго толькі 42 гады.

### Ім гэта вельмі не падабалася

У газ. „Беларускі Звон" была надрукована спэцыяльным „стылям", (па якому між іншым вельмі лёгка адгадаць аўтара) ілжывая зьместу зацемка ў справе звароту правоў гр. Ф. Акінчыцу.

Мусім адразу зазначыць, што сваю газэту будзем сьцерагчы ад усякага роду непатрэбнай палемікі, асабліва з тымі аўтарамі, якія прывыклі хавацца за плечы падстаўных рэдактарскіх „балванаў". Аднак у мэтах правідловага паінфармаваньня грамадзянства ў справе, парушанай „Звонам"—высьсняем, што нічога „надзвычайнага" у факце звароту правоў гр. Акінчыцу ўсякі бесстаронні чалавек пабачыць ня можа, бо вярнулі іх тым парадкам, які прадугледжаны існуючым законам.

Вярнулі іх яшчэ некаторым грамадзяцам (напр. Гелдзе), якія засталіся ў Польшчы і якія ня мелі і ня маюць нічога супольнага з камуністамі.

Каб „пацешыць" запраўдных рэдактараў „Бел. Звону" можам толькі сказаць, што не заўсёды на сьвеце робіцца так, як бы таго хацелася людзям...

Можам іх пацешыь яшчэ і тым, што да грамадзкіх справаў і розных „выпачаньняў", аб якіх яны пішуць, хутка вернемся, аднак не ў газэце, а ў спэцыяльнай аднаднёўцы — каб можна было паўней высьветліць некаторыя рэчы, якія цікавяць ня толькі нас, але могуць зацікавіць, і грамадзянства.

### Уцекачы з Саветаў

Надовячы прыбылі ў Вільню два браты студэнты—беларусы Пяткевічы, уцёкшыя з Савецкай ссылкі, якую адбывалі аж на Сыбіры. Больш 6,000 кілёмэтраў уцекачы прайшлі пехатою, каб дабрацца да польскай граніцы.

### Новая кніжка

Хутка выйдзе з друку вялікая повесьць з жыцьця беларусаў-каталікоў Ул. Казлоўшчыка „Усьведамленьне".

## НАША ПОШТА

Стоўпцы. Гр. гр. Ю. Сабалеўскаму, Я. Ермаковічу, М. Тулейку, М. Драздоўскаму і А. Крыту.

Рэдакцыя вельмі ўдзячна за тыя ўвагі, якія зроблены адносна зьместу першага нумару газэты. Запраўды зьмест яго вышаў „аднабокі" — з гэтым згаджаемся. З наступнага нумару будзем парушаць ня толькі цытаньні камуністычнае „тэорыі і практыкі" але і агульна-грамадзкія, якія будуць зьяўляцца найбольш актуальнымі. Просім і далей прысылаць свае ўвагі адносна зьместу газэты, бо яны вельмі цэнны для ўсякай падобнай працы.

Стопін. А. З. Як на інтэлігентнага чалавека ды асабліва на польскага ўрадоўца—пісьмо Вашае даволі дзіўнае Трэба толькі навучыцца пісаць у форме, якая зьяўляецца прынятаю ў культурных колах грамадзянства. Што Вам не падабаюцца такія газэты як нашыя—ня дзівімся, але нас дзівіць, як гэта Вы можаце сумясьціць свае погляды з тым становішчам, якое займаеце.

А ў—к у. Пытаецеся, якая нашая аканчальная мэта і ці не зьяўляемся мы „служкамі буржуазіі".

Мэта нашай газэты—палітычнае ўсьведамленьне масаў, якія да гэтага часу сьлепа вераць розным дэмагогам і не здаюць сабе справы з таго, чым можа закончыцца для працоўных усякая разбураючая праца.

„Буржуазію" — мы не баронім, бо яна і сама патрапіці гэта зрабіць лепш ад нас. Справу парушаную Вамі мы будзем высьвятляць на старонках часопісі і Вы хутка пераканаецеся што мы стаімо ў абароне інтэрэсаў працоўных і ў абароне нашых нацыянальных ідэалаў.

Яшчэ ніхто нам не давёў, што толькі камуністы мугуць гэтыя справы бараніць.

Мы стаімо на тым грунце, что як раз камуністы могуць толькі пагоршыць палажэньне працоўных, як гэта яны зрабіл ў Саветах.

Чытайце ўважна нашую газэту і што будзе незразумела—пішыце і заўсёды атрымаеце адказ.

## ЖАРТЫ

### ПА СЬМЕРЦІ ЛЕНІНА

Камуніст пытае жыда:
— Скажэце, Блюмендуфт, каго-бы вы хацелі на месца Леніна?
— Уй, я-бы хацеў, каб усе вы пашлі на месца Леніна.

### ВЯЛІКІ ПАСЬПЕХ

— У нашым савецкім транспорце мы асягнулі больш чымся перадваенную хуткасьць.
— А ў якім вы транспорце працуеце?
— Мы возьнікі; працуем у бюро пахованаў нябошчыкаў.

### У САВВАСТРОЗЕ

Начальнік вастрогу:
— У нас тут кожны працуе тое, што ўмее. Ваша спэцыяльнасьць?
— Я скрыпач.
— Ну дык будзеце ў нас пілаваць дровы.



## НОВЫЯ КНІЖКІ

Stankiewič Ad. Franciśk Bahuševič. Jaho žyćcio i tworčaść . . . . . . . . . 0,60
Bahuševič Fr. Dudka Biełaruskaja i Smyk Biełaruski. Z krytyčnym narysam . . . 1,50
K. N. Student. Światy Rym . . . . . . . . 0,40
Ruščaniec J. Pieršyja łastaŭki. Scaničny abrazok z biełaruskaha žyćcia Biełastoččyny . . . . . . . . . . . 0.20
Kazłoŭščyk Uł. Płač Biełaruskaje Staronki Matki pa dzietkach renehatach . . . . 0.30
Гушча Т. У Глыбі Палесься (працяг у Палескай Глушы . . . . . . . . . 4,00

Усе гэтыя кніжкі можна купляць і выпісваць з усіх беларускіх кнігарняў, як у Вільні, так і на правінцыі.

## Беларускі адрыўны календар на 1932 год

Друкуецца і ў першай палове Лістапада паступіць у продажу. Цана календара 90 гр.

Рэд.-Выдавец ФАБІЯН АКІНЧЫЦ.

Вільня, Друк. У. Знамяроўскага, Кашэльная 23